# *Чытач разважае, прапануе, абмяркоўвае*

## Туга па інтэлігентнасці,

### або Што агульнага ў педагога і святара

***Грамадства адчувае нястачу інтэлігентнасці. У педагагічным друку гэта тэма ўздымалася неаднаразова. У "Настаўніцкай газеце" ад 19 красавіка 2001 года апублікаваны артыкул С.і Д.Саладоўнікавых "Літаратура павінна выхоўваць інтэлігентнасць". Дзякуй рэдакцыі за гэты каштоўны і наватарскі матэрыял! Шчыра далучаюся да пазіцыі аўтараў і хачу выказацца пра артыкул.***

ГАЛОЎНАЕ, што прыняла душа — сцвярджэнне "аўтаноміі" асобы настаўніка ў адносінах да зацверджаных метадычных канонаў, да выказваемых у рыгарыстычным тоне навацый. Аўтары пішуць: "Набор метадычных прыёмаў павінен быць вялікім, але ў любым выпадку адыгрывае асобую ролю асоба выкладчыка". І галоўнае: "А выкладчык — у ідэале — павінен выконваць ролю святара, свецкага святара". Так — асоба! Думка пра настаўніка-святара патрабуе, на наш погляд, развіцця. Чаму — "у ідэале"? Не! Паўсядзённа, бо святарства ў даным выпадку азначае не ўзровень майстэрства, а адвечную місію педагога. Паўстае і іншае пытанне: што канкрэтна маецца на ўвазе, калі размова ідзе пра "свецкага святара"? Святар заўсёды прамаўляе ад імя якойсьці веры, гуманістычнай канцэпцыі. У артыкуле на гэты конт сказана: "Літаратура павінна выхоўваць мужнасць, сумленнасць, інтэлігентнасць". Аўтары сцвярджаюць: "Важна ведаць сябе, ведаць свет і выбіраць тую стратэгію паводзін, якая была б высакароднай, узвышанай, далёкай ад глупства і жыццёвых драбніц".

Сам накірунак да ўзвышанасці душы трэба вітаць. Але жыццё ёсць жыццё. І куды падзенеш яго "глупства" і "драбніцы"? Менавіта яны і з'яўляюцца душэўным болем у кожнага з нас. А калі ўжо абапірацца на матэрыял мастацкай літаратуры, дык па фоне глупства (знешняга) і драбніц (уяўных) ідуць да нас незлічоная (высакародныя і ўзвышаныя!) Несцеркі, Насрадзіны, Швейкі, Чонкіны. А "маленькі чалавек" у літаратуры XIX стагоддзя?

Думка аўтараў пра тое, што пры вывучэнні літаратуры галоўнай з'яўляецца менавіта складнік выхаваўчы, выклікае ў душы самую гарачую падтрымку. Адукаваных у сучасным грамадстве — шмат. Інтэлігентных (глыбінна міласэрных) — значна меней. Відавочна, што словы "інтэлігент" і "інтэлігентны чалавек" — далёка не заўсёды сінонімы.

Аўтары артыкула выказваюць свой пункт гледжання і на тое, як канкрэтна выхоўваць жаданую інтэлігентнасць: "Пры аналізе літаратурнага твора школьніка і студэнта можна ставіць на месца героя і заклікаць яго мадэляваць свае паводзіны ў аналагічнай сітуацыі". Думка, на наш погляд, слушная, смелая і нават прасякнутая прадбачаннем — у жыцці (тым больш сучасным) ад чалавека патрабуецца асаблівая самастойнасць і адказнасць за ўчынкі. Але дзе гарантыя, што вучань ці студэнт пагодзіцца з тым, што яго будуць кудысьці "ставіць", і ці адгукнецца ён на "заклік"? Навучэнец — таксама асоба...

Таму ў развіццё пераканаўчай у сваёй аснове думкі аўтараў хацелася б дадаць: настаўнік на ўроку павінен зрабіць так, каб школьнік без усялякіх заклікаў "увайшоў" бы ў сюжэт. Самастойна ўвайшоў, бо яму, як і кожнаму з нас, заўсёды складана ад уласных "глупстваў" і "драбніц" дайсці да ўласнай высакароднасці. Заўважым: сам настаўнік у такіх пошуках не выключэнне; гэта і стварае на ўроку атмасферу сумеснага маральнага пошуку ў адносінах да мастацкага твора.

Святар царкоўны "аналізу" рэлігійных тэкстаў не праводзіць. А якую пазіцыю выбіраць "свецкаму святару"? "Аналіз" увогуле — слова не філалагічнае, хутчэй тэхналагічнае. Калі ўжо наблізіцца да пазіцыі прапаведніка, дык трэба весці размову не пра "металічнае" слова "аналіз", а прыхінуць сэрца да гаючага і таямнічага спасціжэння твора. Вось у такім выпадку пазіцыі святароў царкоўнага і свецкага супадуць. Звесткі па тэорыі літаратуры вучань павінен атрымоўваць, але, на нашу думку, толькі ў той ступені, якая выклікаецца патрэбамі "свецкага святарства". Ісці да твора — гэта ісці да сябе.

Шчыра згодны з аўтарам артыкула, што вучань павінен галоўную навуку жыцця шукаць перш за ўсё ва ўласным духоўным свеце. Чытаючы, да прыкладу, раман С.Лема "Салярыс", школьнік зразумее сітуацыю, што "схавана ў душы чалавека, якія ў ёй тунэлі, тупікі...". І зноў жа ў працяг думкі артыкула зазначым: агульнапрынятыя разважанні пра "тупікі" і "тунэлі" душы чалавека падрыхтаванаму вучню вядомыя не горш за настаўніка. Юнака турбуюць ліхаманкавыя пытанні пра яго ўласныя "тупікі". Яму патрэбна не толькі агульная (у класе), але перш за ўсё патаемная, запаветная (у самоце) "свецкая малітва" да прарока-пісьменніка.

А гэта азначае, што настаўнік павінен весці вучня ў сюжэт (павінен, абавязкова павінен!), але не "стаўленнем" і "заклікамі", а тым, што сам "пойдзе ў сюжэт", сам адчуе сябе пілігрымам да духоўнага адкрыцця, што жыве ў кнізе. Пойдзе не дзеля вучня, не ў сілу прафесіянальнага вопыту, а з мэтаю свайго ўратавання ад пакут сумлення (гэтыя пакуты і ёсць, як вядома, вызначальная рыса інтэлігентнага чалавека). Калі прыклад настаўніка прыцягне да сябе вучняў — гэта і ёсць тое самае святарскае служэнне мастацкай літаратуры, пра якое гавораць аўтары артыкула. Вось тады і адкрыецца адказ на заяўленую ў матэрыяле праблему крытэрыяў ацэнкі твораў у класе альбо ў студэнцкай аўдыторыі.

Да ўсяго гэтага можна было б дадаць яшчэ шмат разважанняў. А гэта знак таго, што думкі, узнятыя С.і Д.Саладоўнікавымі, — актуальныя, змястоўныя, а галоўнае — патрэбныя для далейшага развіцця педагагічных пошукаў. Хацелася б, каб артыкул стаўся пачаткам вялікай і сур'ёзнай гаворкі. Бо пазіцыя, выказаная ў матэрыяле С.і Д.Саладоўнікавых, не павінна застацца толькі прыгожым успляскам высакародных пачуццяў. Патрэбны падручнікі, заснаваныя на ідэі "свецкага святара", распрацоўкі, праграмы. Наша агульная туга па інтэлігентнасці павінна весці нас да сапраўды гуманных педагагічных крокаў.

**Юрый ПАТАЛКОЎ,**
**дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі рускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна.**

Вопыт

## Спецрахунак папаўняецца круглы год

Калі ў большасці школ спецрахункі папаўняюцца ўвосень, то "ашчадная кніжка" Шамаўшчынскай сярэдняй школы, што ў Мсціслаўскім раёне, — увесь год. Тут ёсць уласны пяцігектарны школьны агарод. А да таго — свая мініферма. Сёлета з яе мясцоваму калгасу "Праўда" прадалі цялушку 70-кілаграмовай вагі, а на калгасным рынку ў Мсціславе рэалізавалі шэсць парасятак. У маі ад школьнай каровы малаказборшчыку здалі 300 літраў малака, а ў чэрвені штодня прадаюць па 16 літраў. Ад гэтага на спецрахунак паступіла 300 тысяч рублёў. У дапаможнай гаспадарцы школы ёсць уласны конь. З чэрвеня пры навучальнай установе дзейнічае аздараўленчы летнік. Для яго выхаванцаў арганізавана цікавая праграма, дзеці адпачываюць і пашыраюць свой кругагляд. А тыя, каму патрэбна праходзіць практыку, працуюць на школьным участку. Ідуць сюды з раніцы хлопчыкі і дзяўчынкі. Аб'ём работы — значны. Трэба дагледзець гектар бульбы, 10 сотак сталовых буракоў, 5 — морквы, градкі з цыбуляй, часнаком, гуркамі, таматамі. А яшчэ школьнікі займаюцца нарыхтоўкай лекавых траў і шчаўя.

Прышкольны ўчастак, на якім расце гародніна, утрымліваецца ў ідэальным парадку. І гаспадарчы будынак, дзе ўтрымліваецца жыўнасць школы, варта было б наведаць асобным заатэхнікам: свежае пілавінне, вапна ствараюць тут асаблівую чысціню і мікраклімат. У школе, аказваецца, навучыцца можна многаму.

НА ЗДЫМКУ: загадчык гаспадаркі школы А.А.Раеўскі і вучні Юра Маісеенка і Яўген Кавалёў са сваімі гадаванцамі.

**Тэкст і фота А.САПЁРАВА.**



На кантролі рэдакцыі

## Выхаванне кулаком...

***У рэдакцыю паступіла пісьмо ад Юрыя Віктаравіча Рабцава. У ім ішла размова пра тое, што 19 сакавіка 2001 года яго сын, Аляксандр Рабцаў, быў збіты настаўнікам Леанідам Антонавічам Заваротным. Выпадак меў месца ў Расонскай школе імя П.М.Машэрава Віцебскай вобласці.***

Далей падзеі развіваліся наступным чынам. Выпадак атрымаў агалоску, і 11 красавіка загадам па раённым аддзеле адукацыі настаўнік быў звольнены. Праз некаторы час ён падае заяву ў Полацкі раённы суд адносна незаконнасці звальнення, і суд аднаўляе яго на працы. Адбываецца гэта на наступны дзень пасля пасяджэння суда. 19 мая 2001 года Л.А.Заваротны выходзіць на працу і падае заяву на звальненне па ўласным жаданні.

Крымінальная справа па дадзеным выпадку не заводзіцца, таму што Расонскі аддзел унутраных спраў прызнае факт нанясення лёгкіх цялесных пашкоджанняў. Між тым праз тры тыдні Аляксандр трапляе ў бальніцу. Сёння цяжка сказаць, ці ёсць сувязь паміж выпадкам збівання і захворваннем хлопца, але тым не менш факт знаходжання ў бальніцы меў месца.

Рэдакцыя накіравала дадзенае пісьмо для праверкі ў Віцебскую абласную пракуратуру. У сваім адказе начальнік аддзела па нагляду за адпаведнасцю закону судовых рашэнняў па грамадзянскіх справах В.А.Маршалаў паведаміў: "На рашэнне Полацкага раённага суда ад 18.05.2001 г., якім Л.А.Заваротны адноўлены на ранейшым месцы працы, унесены касацыйны пратэст пракуратуры Полацкага раёна. Справа прызначана да разгляду ў касацыйнай інстанцыі абласнога суда на 10.07.2001 г."

Паколькі рэдакцыі не вядомыя ўсе акалічнасці справы, складана рабіць аналіз таго, што адбылося. Але тое, што факт рукапрыкладства меў месца ў адукацыйнай установе, наводзіць на пэўны роздум. Ёсць агульнавядомыя этычныя нормы паводзін настаўніка, якія нельга парушаць ні пры якіх абставінах. Мы гаворым пра "дзедаўшчыну" ў войску, а ці не пачынаецца яна значна раней, у той жа школе, напрыклад?

Рэдакцыя будзе трымаць на кантролі гэты ліст і сачыць за ходам падзей.

Лета-2001

## Адпачынак... на сенажаці

Паважаная рэдакцыя!

Мы вымушаны звярнуцца да Вас з наступнай прычыны. Па стане на 20 чэрвеня мы не атрымалі заработную плату за май. У раённым аддзеле нам адказалі, што дзень выдачы зарплаты перанеслі на 29 чэрвеня. Атрымліваецца, што два месяцы мы працуем бясплатна.

Мы не можам спланаваць свой адпачынак, паехаць на лячэнне, бо тыя настаўнікі, якія пайшлі ў адпачынак з 4 чэрвеня, атрымалі адпускныя 20 чэрвеня і то толькі за чэрвень. Між іншым, зарплату за май яны таксама не атрымалі.

Дзякуй Богу, хоць у адным райвыканкам нас не забывае: загадам нам даведзены план здачы зялёнай масы — 400 кілаграмаў на чалавека штомесяц. Атрымліваецца за лета 1,2 тоны.

Мы не маем магчымасці своечасова аплаціць рахункі за кватэру, тэлефон, электраэнергію. Ёсць, дарэчы, складанасці і з падпіскай. Не можам дазволіць аніякіх пакупак сабе і дзецям.

Рэдакцыя — апошняя інстанцыя, куды мы звяртаемся. Звярталіся ўжо і ў Адміністрацыю Прэзідэнта, і ў Камітэт дзяржкантролю. Адтуль наш ліст быў адасланы ў аблвыканкам, і на гэтым справа скончылася.

Просім Вас дапамагчы.

Настаўнікі Ухвальскай школы Крупскага раёна
(больш за 20 подпісаў).

**Ад рэдакцыі.** У апошні час у рэдакцыйнай пошце некалькі такіх лістоў — з Ашмян, Асіповічаў, іншых месцаў. Калі пачынаеш тэлефанаваць, чуеш прыкладна адно і тое ж — раён сельскі, датуецца з вобласці, і выдаць зарплату своечасова няма магчымасці.

Незразумела толькі вось што. Ні для каго не сакрэт, што настаўнікі, як правіла, ідуць у адпачынак летам. І кожны год паўтараецца адно і тое ж. Памятаю, як пяць гадоў назад пытанне аб выплаце адпускных настаўнікам абмяркоўвалася на ўзроўні Міжведамаснай камісіі пры Савеце Міністраў. У мінулым годзе даходзіла да абсурду — калі, напрыклад, у кагосьці з настаўнікаў здаралася няшчасце, цудам адпускныя атрымлівала ўся школа. Увогуле, калі адкінуць ў бок эмоцыі, ёсць заканадаўства, якое прадугледжвае выплату адпускных за 2 дні да адпачынку. І яго ніхто не мае права парушаць.

**P.S.** Як стала вядома рэдакцыі, па стане на 29 чэрвеня, калі матэрыял рыхтаваўся да друку, запазычанасць ліквідавана. Але, на наш погляд, гэта не мяняе сутнасці праблемы.

**Ала ШАЎЦОВА.**

## "Валанцёр", "Крывічы", "Віцязь" і іншыя

***Першамайскаму аддзелу адукацыі Віцебска ў першы летні месяц удалося арганізаваць адпачынак 1930 школьнікаў у 33 разнастайных летніках. Гэта дванаццатая частка ўсіх дзяцей школьнага ўзросту — тыя, хто больш за іншых меў у гэтым патрэбу. Сярод іх — падлеткі с асацыяльнымі паводзінамі, для якіх дзейнічалі чатыры спецыялізаваныя летнікі працы і адпачынку, разлічаныя на 135 чалавек.***

Летнік "Валанцёр" быў арганізаваны спецыяльна для дзяўчынак. Разбіўшыся на пяць атрадаў (па дзесяць чалавек у кожным), яны выпрабавалі сябе ў ролі памочнікаў выхавацеляў у спецыяльным Доме дзіцяці (для хворых дзяцей), у дзіцячым доме і двух дзіцячых садках. Дзяўчынкі на практыцы сутыкнуліся з горкімі сіроцкімі лёсамі, болем і адчаем кінутых бацькамі дзяцей. У аднаго з атрадаў была незвычайная місія — у таварыстве Чырвонага Крыжа прайсці курс аказання даўрачэбнай дапамогі. Разам з супрацоўнікамі таварыства дзяўчынкі раздавалі гуманітарныя абеды, наведвалі састарэлых адзінокіх людзей і дзяцей-інвалідаў.

Не менш насычаным падзеямі стаў чэрвень для хлапчукоў з летніка "Віцязь": яны займаліся добраўпарадкаваннем тэрыторыі гарадскога сацыяльнага прытулку і вячэрняй школы.

У краязнаўчым летніку "Крывічы" падлеткі займаліся вывучэннем гісторыі Віцебска, прычым праявілі незвычайную цікавасць да нелюбімай многімі дагэтуль школьнай дысцыпліны. Дзейнасць гэтага летніка стала своеасаблівым працягам мэтанакіраванай работы педагогаў на працягу ўсяго навучальнага года, якая вялася на базе дзіцячай бібліятэкі № 20. Сустрэчы са знакамітымі людзьмі, экскурсіі ў літаратурны і краязнаўчы музеі, музей асабістых калекцый і мясцовыя храмы, знаёмства з археалагічнымі раскопкамі для многіх сталі сапраўднымі адкрыццямі.

Самых праблемных юнакоў, палова з якіх — умоўна асуджаны, узялі на выхаванне воіны батальёна ўнутраных войск, які ўзначальвае Анатоль Адамавіч Курылец. Разам з імі хлапчукі з летніка "Доблесць" прайшлі курс маладога байца, пажылі сапраўднымі баявымі буднямі.

Праўда, другая палова дня для ўсіх чатырох летнікаў мела шмат агульнага: наведванне басейна "Камсамолец" і кінатэатраў, музеяў і выстаў, удзел у спартыўных праграмах і конкурсах... Усё бясплатна, у тым ліку і трохразовае харчаванне, вітаміны. Варта адзначыць, што займаліся з падлеткамі лепшыя спецыялісты, у большасці мужчыны: сацыяльныя педагогі, псіхолагі, фізрукі, гісторыкі. Начальнікі летнікаў Таццяна Віктараўна Карчагіна, Ірына Аркадзьеўна Шац, Аляксей Віктаравіч Ліцяга, Аляксандр Леанідавіч Цярэшчанка разам з метадыстам раённага аддзела адукацыі Бярутай Аляксандраўнай Семянковай падбіралі выхаванцаў з ранняй вясны. Галоўным чынам тых, хто стаіць на ўнутрышкольным уліку, у камісіі па справах непаўналетніх, хто пражывае ў малазабяспечаных і шматдзетных сем'ях. Мэта педагогаў — прафілактыка праваапарушэнняў, карэкцыя паводзін і карысная дзейнасць падлеткаў — дасягнута. Дарэчы, для такіх жа дзяцей пры 11 школах Віцебска дзейнічалі вучнёўскія брыгады, занятыя рамонтам памяшканняў і мэблі. Адна з іх створана на базе інтэрната для дзяцей-сірот з ЗПР.

На вялікі жаль, другую змену ўдалося арганізаваць толькі для некалькіх гарадскіх летнікаў на 270 школьнікаў. На астатнія не хапіла сродкаў.

**Святлана ЛАВЕЙКІНА.**

## У водпуск... з лёгкім сэрцам

***У клецкіх асветнікаў усталявалася цудоўная традыцыя: яшчэ задоўга да пачатку новага навучальнага года матэрыяльна-тэхнічная база школ павінна быць цалкам падрыхтавана.***

Так сталася і сёлета. Напрыклад, дырэктар Зубкаўскай сярэдняй школы Міхаіл Скаварада паведаміў, што будынак практычна гатовы прыняць вучняў хоць заўтра. Значыць, ён загадзя быў адрамантаваны як след, з улікам усялякіх "сюрпрызаў" з боку матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння.

Міхаіл Аляксеевіч расказаў, што так званы касметычны рамонт асабліва не выклікаў праблем, прайшоў, лічы, у рабочым парадку.

Адміністрацыя школы ў гэтыя летнія дні засяродзіла сваю ўвагу на адпачынку, аздараўленні вучняў.

Арганізаваны пры школе летнік меў дзве мэты: адпачынак уперамежку з працай на прышкольным участку і ў роднай гаспадарцы — саўгасе "Зубкі".

— Дарэчы, — падкрэсліў Міхаіл Аляксеевіч, — праца вучняў спрыяе назапашванню фінансавых сродкаў школы. На сённяшні дзень на спецрахунку захоўваецца звыш 700 тысяч рублёў. Напрыклад, за вырашчаныя саджанцы парэчак школа ўтаргавала 250 тысяч рублёў. А ўлічыць яшчэ амаль чатыры тоны макулатуры? Добрыя надзеі ўскладаем мы на прышкольны ўчастак.

Будзем і з палівам. Задзел складаюць амаль сто тон сэканомленага вугалю (мінулая зіма была даволі лёгкай). "Адным словам, — падкрэсліў Міхаіл Аляксеевіч, — у мяне ёсць усе падставы ісці ў водпуск з лёгкім сэрцам."

**Адам ЛУСТА.**

Погляд

## Языком у Вільні, а галавою за печчу

***Апошнім часам у нашым грамадстве даволі вялікая ўвага надаецца вывучэнню правоў чалавека, у тым ліку правоў дзіцяці. Тэлеперадачы, выступленні ў друку, канферэнцыі, семінары, урокі і г.д. Словы, словы, словы... Але!***

Напрыклад, у артыкуле 9 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці" сцвярджаецца наступнае: "Кожнае дзіця мае права на абарону сваёй асобы ад любых відаў эксплуатацыі і насілля". І далей: "Дзяржава забяспечвае недатыкальнасць асобы дзіцяці", "ажыццяўляе яго абарону... ад фізічнага і (або) псіхічнага насілля, жорсткага, грубага або абразлівага абыходжання..."

Дык вось паспрабаваў я правесці сярод навучэнцаў нашага педагагічнага каледжа сацыялагічнае даследаванне і высветліць некаторыя пытанні, звязаныя з фізічным пакараннем дзяцей. Атрымалася даволі сумная карціна.

64 працэнты адказалі, што іх у дзяцінстве бацькі фізічна каралі. Прасцей кажучы, білі. І гэта цяперашніх нашых навучэнцаў, у цэлым нядрэнных дзяцей, большасць з якіх — дзяўчаты!

Аказваецца, ужо ў дзіцячым садку 28,5 працэнта нашых навучэнцаў былі сведкамі таго, як выхавацелі прымянялі меры фізічнага ўздзеяння. Далей — школа. І тут некаторыя навучэнцы былі сведкамі фізічнай расправы настаўніка над вучнямі.

Можна пахваліць тых з нашых навучэнцаў, якія адказалі адмоўна на пытанне "Ці лічыце вы, што фізічнае пакаранне дае педагагічны эфект?" Такіх 63,5 працэнта. Але ж 15 працэнтаў палічылі, што дае.

Засмучае, што на пытанне "Ці будзеце вы караць сваіх дзяцей фізічна?" адмоўна адказалі 28 працэнтаў, 7 працэнтаў адзначылі, што будуць, а 65 працэнтаў не змаглі адказаць на пытанне.

Быў некалі выпадак, калі выпускнік нашага каледжа ў час пераддыпломнай практыкі стаў усталёўваць дысцыпліну ў класе тым, што пачаў біць хлопчыкаў. Гэты выпадак тады стаў прадметам сур'ёзнага абмеркавання на педагагічным савеце і атрымаў катэгарычна адмоўную ацэнку.

Трэба часцей нагадваць і маладым, і вопытным педагогам простую ісціну: "Фізічнае насілле ў дачыненні да дзіцяці ў садку, школе і г.д. не толькі амаральна, але і з'яўляецца парушэннем існуючых законаў". Педагог, які выбірае такі шлях, можа мець вялікія непрыемнасці і сесці на лаву падсудных. Як бы ні было цяжка, ён не мае права біць выхаванца.

Безумоўна, нельга толькі на педагогаў "вешаць усіх сабак". Калі, напрыклад, паглядзець сучасныя фільмы, складваецца ўражанне, што многія праблемы лёгка вырашыць з дапамогай кулака, нажа, пісталета і г.д. Што ж дзіўнага ў тым, што ў многіх нашых людзей настрой менавіта такі?

Словы і справы не павінны разыходзіцца і ў нашых кіраўнікоў. Калі адзін раз у год, у Дзень настаўніка, гучаць словы пахвалы і ўдзячнасці — гэта словы, часта няшчырыя. А калі настаўніку плацяць грошы за вельмі цяжкую працу — гэта справы.

Калі ў грамадстве зацікаўлены ў тым, каб школу не пакідалі таленавітыя педагогі, ім трэба плаціць добрыя грошы.

Нядаўна ездзіў з навучэнцамі на рэспубліканскую алімпіяду па гісторыі Беларусі сярод навучэнцаў педкаледжаў і педвучылішчаў. Там члены журы гаварылі вельмі прыгожыя словы пра таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак — пераможцаў алімпіяды і ўручылі ім... капеечныя грашовыя прэміі. Хлопчык за першае месца атрымаў 11400 рублёў. Дзяўчынка з нашага каледжа, якая заняла трэцяе месца, атрымала грашовую прэмію ў памеры 5 тысяч 700 рублёў. Вось вам словы і справы. Відаць, не ўмеюць у нас цаніць таленты.

На жаль, можна знайсці і шмат іншых прыкладаў, калі паміж словамі і справай дыстанцыя вельмі вялікая.

**Вадзім ЦІТОЎ,**
**выкладчык Полацкага педагагічнага каледжа.**





У Віцебску адкрыўся VI Міжнародны дзіцячы пленэр імя І.Е.Рэпіна. Шасцідзённая праграма свята творчасці насычана разнастайнымі падзеямі. Гэта дзень памяці вялікага мастака, паездкі на эцюды ў музей-сядзібу ў Здраўнева, агледзіны памятных мясцін Віцебска і шмат іншых мерапрыемстваў. Завершыцца пленэр адкрыццём справаздачнай выставы. На VI Міжнародным пленэры імя Рэпіна працуюць больш як 30 выхаванцаў дзіцячых мастацкіх школ і школ мастацтваў Беларусі, Расіі, Украіны і Германіі.

НА ЗДЫМКАХ: настаўнік мінскай дзіцячай мастацкай школы № 3 Антаніна Анатольеўна Шуганава са сваімі выхаванцамі Кацяй Храмянковай, Вольгай Пад'ельскай і Наташай Сяржанінай; на эцюдах.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

